Арцём КАВАЛЕЎСКІ

# ДАРАЖЫЦЬ УБАЧАНЫМ, альбо ВАЧЫМА ЗАЧАРАВАНАГА ВАНДРОЎНІКА

## *З вопыту прачытання фатаграфій Уладзіміра Суцягіна*



Фотамастак Уладзімір Суцягін нарадзіўся 20 лістапада 1955 года ў горадзе Горкім (цяпер Ніжні Ноўгарад). Займаецца фатаграфіяй са школьнага ўзросту. Пасля заканчэння сярэдняй школы ў 1973 годзе паступіў у тэхнічнае вучылішча на спецыяльнасць «фатограф шырокага профілю». Быў сябрам легендарнага горкаўскага фотаклуба «Волга». З 1980 года жыве ў Мінску, доўгі час працаваў у галіне рэстаўрацыі помнікаў архітэктуры. Працуе ў напрамку манахромнай піктарыяльнай (ад слова «picture» — карціна) фатаграфіі. Яго працы, знятыя на плёнку, аддрукаваны і таніраваны ўручную. Удзельнік больш як трох дзясяткаў персанальных і калектыўных выставак у Беларусі, Расіі, Украіне, Бельгіі, Італіі, Эстоніі. Аўтар сямі фатаграфічных выданняў, апошняе з якіх — фотаальбом «Встречая свет», у якім фатаграфіі аўтара суправаджаюцца кароткімі эсэ-ўспамінамі з творчай біяграфіі і развагамі пра прыроду і сутнасць фотамастацтва.

### I

*У раздумий беззвучны слова,*
*Как искать их люблю в тишине я!*
И. Анненский

Святло, што не слепіць вочы, святло мяккае, якое трыумфуе пераканаўча і яўна, нібы збліжэнне, што нараджае прыналежнасць. Святло, якое выяўляе ціхмяную прамяністасць зямлі ўлюбёнай, адзінай. Святло, сугучнае крохкай вытанчанасці празрыстага ладу. І ўжо не ўзнікае пратэсту ўнутранага, адчужанасці альбо спрэчкі, бо ўзрадаванае свячэнне сціплай красы сустракае і вітае нас сваёй явай.

Святло пакідае след. Створаная выява ўвасабляецца ў вобразе, які становіцца знамянальным і знакавым. Ён апанаваны ціхай шчырасцю і сапраўдным захапленнем. Вера выяве і вернасць гэтай веры цалкам натуральна ўзнікаюць у нас. Міг узаемапранікнення. Вобраз застаецца з намі. І цяпер ужо бездакорная злучанасць, звязанасць вядуць нас да спасціжэння цішыні не маўклівай, але прамаўляючай, патрабуючай разгадкі.

Увайсці ў прастору фатаграфіі лёгка. Пачынаецца падарожжа, вандроўка. Рукатворнае і падоранае Богам раптам, неяк знянацку (але невыпадкова) прыадкрываюць

нам свой запаветны сэнс. Мы адчуваем прамудрасць і хараство Тварца ў кожнай кветцы, галінцы, цявінцы, якія заклікаюць да нашай найглыбейшай увагі, таму што ўсё становіцца значным і выразным, абдораным веданнем нейкай важнай і вялікай таямніцы — таямніцы светабудовы.

І вось, нарэшце, убачанае авалодвае намі. Мы верым ягонай чысціні, і нам хочацца як мага даўжэй затрымацца там, у ціхім кутку зямлі, клапатліва прыадкрытым для нас мастаком. Выява непадробная, як напеў дзіцяці, якое не задумваецца, ці чуюць яго, — высокае адкрыццё непрыдуманага свету. Водгалас убачанага на адным здымку працягвае гучаць у нас нават тады, калі погляд пераносіцца на здымак іншы. І цяпер цэлыя сугуччы, пералівы перапаўняюць нас сваёй меладычнасцю, зладжанасцю, стройнасцю.

Безумоўнае ўлоўліванне рысаў. Мастак даражыць убачаным беражліва, як летапісец. Самотныя фігуры на здымках — ключы да спасціжэння існага ў прасторы і часе, катэгорыях, якія патрабуюць абсалютнага заглыблення. Усталёўваецца спакой.

Дзве палосы — зямлі і неба — не сапернічаюць, не перасягаюць адна адну, а змыкаюцца ціхамірна і ласкава, залучаючы нас у свой рахманы дыялог. Тонкая, далікатная лінія небакраю…

Ледзь улоўная мяжа ўзаемапранікнення Мінулага і Будучага. Развагі пра час, які здзяйсняецца на фатаграфіі, прыводзяць нас у Цяперашняе. Прыпынены час. Жывы. Ён дыхае з намі ў такт, і подых гэты свабодны, як павеў прахалоднага ветру, і няспынны, як велічная плынь ракі. Цяперашняе немагчыма змерыць. Але яно суразмернае нашаму пражыванню, перажыванню, прасвятленню. Нам па сілах пачуць кожны асобны крок, зроблены на шляху ўзыходжання па лесвіцы часоў. Тады крок наш стане ўнікальным, мерным, нягледзячы на імклівую і мітуслівую будзённасць.

Бывае, мы гаворым шэптам. Не для таго, каб нас не пачулі, а для таго толькі, каб нам верылі, бо ціхае, няхітра вымаўленае шчырае слова пранікае ў самае сэрца і, затрымаўшыся там, саграве яго дабратворным міласэрным цяплом. Цяпло, што разлілося ў сэрцы, напаўняе святлом душу. Яна акрыляецца і ўзнімаецца ў неба, замілаваная і праясненая.

Патрабавальны мастацкі погляд. Ён неабыякавы. Убачанае і прадугаданае Майстрам з лёгкасцю перадаецца нам. Угляданне, учытванне, далучэнне схіляюць і запрашаюць нас да шчырай сутворчасці. Слушнае пачуццё і адчуванне прыгажосці сапраўднай, стрымана-заглыбленай, а таму такой вартай, прапаноўваецца нам як дар, які немажліва адхіліць.

Акно фатаграфіі. Прастора, якая нас кліча. Зачараваныя яе бязмежнымі далячынямі, мы давяраемся ёй і патанаем у маўклівым ззянні. Хвілі трапяткога суназірання. Уход у сябе. І зноў вяртанне. Вяртанне ў выяву, прапанаваную здымкам. Падарожжа, вандроўка працягваюцца…

…а перад вачыма — здымак, які захоўвае цеплыню промня, што затрымаўся на сценах мудрай абіцелі; здымак, напоўнены святлом ціхім, што не слепіць вочы, а трыумфуе пераканаўча і яўна.

## II

> ***Будущего недостаточно.***
> ***Старого, нового мало.***
> Б. Пастернак

Вачыма зачараванага вандроўніка, бясконца закаханага ў кожны ўбачаны ім куток зямлі, Майстар пазірае на свет. Балансуючы на хісткай мяжы Мінулага і Будучага, што завецца Цяперашнім, Ён бачыць тое, што схавана ад пабочнага выпадковага погляду. Яго ўгляданне ў сучасны нам свет напоўнена нястомным і, па сутнасці, такім неабходным клопатам пра дзень сённяшні, клопатам, немажлівым без карпатлівага прачытвання мінуўшчыны і асэнсаванага (але часам і інтуітыўнага) прадугадвання будучыні.

## Бывае, мы гаворым шэптам. Не для таго, каб нас не пачулі, а для таго толькі, каб нам верылі

Гісторыя, што заўжды заклікае да працягу, так ці інакш працягваецца. Мінулае застаецца нязменным. Часта яно выпадае з-пад нашай увагі. Мы губляем нітку, якая звязвае нас з Вечнасцю.

Авеяная легендамі і паданнямі ўмудроная даўніна адкрывае свае таямніцы толькі таму, хто здольны разгледзець у ёй бязмежную ўнікальнасць і неверагодную, поўную тужлівай безвыходнасці, тленнасць. Зямля-паданне. Зямля-легенда… Напаўразбураныя храмы, некалі велічныя паркі, змрочныя касцякі замкаў… Цяперашняе ўвайшло ў нашае жыццё з ценяў Мінулага, з мінулых успамінаў. Здараецца, што ў сне мы даведваемся пра існаванне чагосьці блізкага, роднага, надзвычай дарагога, але назаўжды аддаленага ад нас часам. Абуджэнне памятае толькі слабы, ледзь чутны водгалас перажытага ў сне. Нядаўняе адчуванне блізкасці прытупляецца, а хутка і зусім забываецца, сыходзіць у нябыт. Мы бяднеем, бо зноў пазбаўлены мажлівасці ўз'яднацца з Вечнасцю.

Засяроджана-спакойны погляд мастака ў свет дорыць нам адзіны момант, эпізод, кадр з жыцця, сканцэнтраваны на ўнутраным (а значыць, нятленным) змесце ўбачанага. Праз знешняе, бачнае, рэальна існуючае мы спасцігаем метафізічны сэнс прасторы і часу. Неперанасычанасць і надзвычайны аскетызм выявы пазбаўляе нас ад імклівай віхуры другасных думак. Мітуслівы свет адыходзіць. Перад намі ясная праўдзівасць і ў той жа час казачная ірэальнасць здымкаў, якая мяжуе з парадоксам. І зусім незразумелым, невытлумачальным і таемным чынам легенды дзён мінулых, гераічных і слаўных становяцца нам больш блізкімі, зразумелымі і роднымі. Мелодыя выявы пявучая, спакойная, у ёй усё бесканфліктна і на дзіва прыемна для нашых стомленых вачэй.

Архаіка, увасобленая ў працах Майстра, а таксама падкрэслена вінтажная візуальная манера заварожваюць, як заварожвае старасвецкае, крыху памутнелае, усё ў вясёлкавых разводах, шкло альбо люстра, у паўпразрыстасці якога мы можам разглядаць не толькі ўласнае няяснае адлюстраванне, але і мноства амаль сімвалічных водбліскаў, абрысаў, паўтонаў. Сціпласць, стрыманасць і вытанчанасць пейзажу на здымках, лаканізм і ідэальна выбудаваная кампазіцыя ператвараюць маналог выявы ў маналог мастака. Ягоная паэтызацыя Мінуўшчыны, пэўная дагматычнасць, але разам з тым неверагодная свабода і раскаванасць увасаблення ўбачанага ўспрымаюцца абсалютна натуральна і лёгка. Мы пераносімся ў час, які існуе і цягнецца на фатаграфіі. Амаль гэтак жа, як і мастак, мы бачым тое адзінае месца, якое ён выбраў для нас з тысяч іншых зямных прыстанкаў. Амаль гэтак жа, як і ён, мы чуем і перажываем няспешную размову зямлі з часам — цалкам ужываемся ў стыхію фатаграфічнага адбітка. Чарговасць здымкаў падобная да калідора, што складаецца з сумежных пакояў. Трапляючы ў адзін з іх, узнікае няўтольнае жаданне ўвайсці ў наступны. Беспрытульнасць адных памяшканняў змяняецца мяккай уладкаванасцю іншых. У некаторых з іх мы падоўгу блукаем, а калі выходзім, то нас сустракае радаснае святло, спакойнае і ціхамірнае.

Убачыць і ўвасобіць. Увасобіць, каб запомніць — запомніць доўгае, расцягненае на стагоддзі, чуванне спарахнелых сцэнаў і сцёртых камянёў, якія захоўваюць бясконцыя гісторыі засмужанай і чамусьці заўжды прыцягальнай Мінуўшчыны. Рука Майстра паказвае нам на дзверы, за якімі мы становімся суразмоўцамі дзён даўно мінулых. Ён дорыць нам ключы — свае работы, каб мы маглі адчыніць гэтыя запаветныя дзверы. Нам прапануецца зірнуць на наш чароўны і ўцешны свет вачыма зачараванага вандроўніка, вачыма вечна здзіўленага, захопленага чалавека, закаханага ў кожны ўбачаны калісьці куток зямлі.

***2001 год***